Магістрат

«МАГІСТРАТ» — Газэта Віцебскай Рады Партыі БНФ №1(96), студзень, 2019г.


# “ВІЦЕБСК – ГЭТА БЕЛАРУСЬ”

**5 студзеня ў Віцебску адбылася канфэрэнцыя “Беларуская дзяржаўнасьць. Гісторыя і сучаснасць”.**

Канфэрэнцыя узьняла пытаньні: станаўленьня беларускай нацыі; утварэньня беларускай дзяржаўнасьці; пэрспэктываx яе захаваньня ва ўмовах расейскага эканамічнага і інфармацыйнага ўплыву.

Канфэрэнцыю арганізавалі прадстаўнікі гарадзкой дэмакратычнай супольнасьці — запрасілі вядомых сталічных навукоўцаў і мясцовых дасьледчыкаў. Актавая заля абласной бібліятэкі была поўнай: слухачы на канфэрэнцыю прыехалі нават з рэгіёнаў.



**«Віцебск – гэта Беларусь, а не пляцоўка для стварэньня «саюзаў» з Расеяй»**

Размове пра беларускую ідэнтычнасьць і дзяржаўнасьць папярэднічала ўскладаньне кветак да помніка вялікаму князю Альгерду, які неаднаразова «прыхіляў дзіду сваю да брамы маскоўскае». У часы яго кіраваньня сярэднявечны Віцебск дасягнуў найвышэйшага росквіту, і гэтую постаць гараджане лічаць увасабленьнем моцы і самабытнасьці горада.

Ідэя правесьці канфэрэнцыю, падкрэсьліўшы адметнасьць Віцебску насуперак распаўсюджаным меркаваньням пра тое, што гэта «самы расейскі» з усіх беларускіх гарадоў, зьявілася паўгода таму. Пра гэта распавёў у пачатку імпрэзы яе ініцыятар, сябра Сойму Партыі БНФ **Хрыстафор Жаляпаў.**

«У ліпені, падчас „Славянскага базару“, арганізатар „расейскіх маршаў“ Сяргей Бабурын правёў тут зьезд грамадзянскай ініцыятывы „Саюз“ — супольнага ўтварэньня расейскіх і беларускіх прыхільнікаў „адзінай дзяржавы“. Зьезд праходзіў употайкі ад шырокай грамадзкасьці, але на яго былі запрошаны прадстаўнікі праваслаўнай царквы і віцебскіх прарасейскіх колаў. Калі зьвесткі пра ініцыятыву „Саюз“ трапілі ў прэсу, я чарговы раз адчуў крыўду за імідж горада, які „прытуліў“ удзельнікаў антыбеларускага сходу», — сказаў Жаляпаў.

**«100 год БНР» адзначалі гучней за стагодзьдзе БССР, – Стужынская**

Падчас канфэрэнцыі выступоўцы неаднаразова згадвалі і выказваньне Аляксандра Лукашэнкі пра тое, што «Магілёў — больш расейскі, чым беларускі», бо за гэтымі словамі праглядаецца і ўмоўная паралель зь Віцебскам. Абодва гарады знаходзяцца на памежжы з Расеяй, і абодва ледзьве ня сталі яе часткай неўзабаве пасьля абвяшчэньня БССР — дакладней, ССРБ (Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь), якое адбылося ў пачатку студзеня 1919 г. у Смаленску.

Ці было гэта праявай свабоднага волевыяўленьня беларускага народу, як пісалі ў савецкіх падручніках, калі стварэньне БССР ініцыявалася «з Крамля»? Якімі былі сапраўдныя мэты расейскіх стваральнікаў «беларускай дзяржаўнасьці», што кіраваліся парадай Уладзіміра Леніна пра стварэньне «буфэрнай рэспублікі» на мяжы с Польшчай? Пра гэта распавяла дасьледчыца Ніна Стужынская, падкрэсьліўшы, што фармулёўка пра «мару беларусаў стацца часткай вялікай сацыялістычнай краіны» выглядае сумнёўным нават для сучасных беларускіх уладаў.

Невыпадкова 100 год БССР гучна не адзначалася на дзяржаўным узроўні, а дазвол на сьвяткаваньне стагодзьдзя БНР улады ўсё-ткі далі, лічыць дасьледчыца. Аднак у сучасных падручніках па гісторыі Беларусі, перапрацаваных у канцы 1990-х, паўтараецца прасавецкая вэрсія выкладаньня падзеяў, канстатавалі слухачы.

**Віцебск, Полацак і Ворша — эўрапэйскія гарады, але памяць пра гэта зьнішчылі**

З паведамленьнямі пра гісторыю гарадоў Віцебшчыны выступілі гісторыкі **Сяргей Тарасаў** і **Ігар Цішкін,** краязнаўцы **Міхась Баўтовіч** і **Ігар Казьмярчак.** Яны казалі пра адметнасьці, што сьведчаць пра адрознасьць лёсаў Віцебска, Полацка і Воршы ад расейскіх гарадоў.

Адметнае архітэктурнае аблічча таго ж Віцебска ў большай частцы страчанае, падкрэсьліў Цішкін.

«Віцебск паўставаў як эўрапэйскі горад. Але віцебскім уладам заманулася паставіць тут помнік княгіні Вользе, якая нібыта заснавала горад, — паставіць насуперак гістарычным фактам. Кіраўнікі гораду ня дбаюць пра аднаўленьне архітэктуры, страчанай ня толькі падчас апошняй вайны, але й зьнішчанай сьвядома ў паваенны час. Затое ў нас ёсьць помнік Пушкіну і «залатой рыбцы». Нібыта ў культурнай палітыцы ўлады ўвасабляюць колішняе выслоўе Хрушчова — «чым хутчэй мы загаворым па-расейску, тым хутчэй збудуем камунізм», — кажа гісторык.

Пра расейскі інфармацыйны ўплыў, у якім патанае Віцебск, дый іншыя беларускія гарады, разважаў мясцовы журналіст **Зьміцер Казакевіч.** Зь яговых назіраньняў, гэта ўплыў перадусім тэлевізійны — як расейскіх тэлеканалаў, так і мясцовых, што ствараюць пераважна расейскамоўны кантэнт. Супрацьпаставіць гэтаму практычна няма чаго: у Віцебску няма ніводнай беларускай клясы, тым болей — школы, зазначыў пачэсны старшыня абласной рады

Magistrat

**Выдавец**:
Віцебская Рада Партыі БНФ
**Рэдактар:**
Канстанцін Смолікаў
**Наклад:**
299 паасобнікаў

*http://kamunikat.org/mahistrat.html*

Пункты погляду рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць.

Друкуецца на правах рукапісу для ўнутранага карыстаньня

Можа выкарыстоўвацца ў рэклямных і агітацыйных мэтах.

**ВІЦЕБСКАЯ АБЛАСНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ ПАРТЫІ БНФ**
**вул. Церашковай, д.11, п.1.13, г.Віцебск, Рэспубліка Беларусь, 210035**
Тэлефоны для кантактаў:
8-029- 710-42-23, 713-22-00, 218-98-38, 711-24-47, 593-15-34, 517-32-53.
**E-mail: kas_vit@tut.by**
**WWW.NARODNY.ORG**
VK.COM/PARTYJA_BNF
**WWW.MOLADZ.INFO**
VK.COM/BNF_MOLADZ

**АХВЯРАВАНЬНІ НА ДЗЕЙНАСЬЦЬ**

**Рэквізіты:**
**Грамадскае аб'яднанне БНФ «Адраджэньне» Адрас: г. Мінск, вул. Чарнышэўскага, д. 3, пак.48а УНП 100052236**
**ААТ «Банк БелВЭБ»**
**г. Мінск Мінскае аддзяленне №2 Адрас банка: 220004 г.Мінск, пр-т Пераможцаў, 100**
**BIC SWIFT: BELBBY2X**
**IBAN BY70 BELB 30151001470040226000**
**Прызначэнне плацяжу: Дабрачынны ўнёсак**
**Дзякуй за Вашыя ахвяраваньні!**

# “ВІЦЕБСК – ГЭТА БЕЛАРУСЬ”

Рады ТБМ **Ёсіф Навумчык.**

**Рыхтавацца да нішчымніцы, але пашыраць беларушчыну**

Паводле палітоляга **Андрэя Ляховіча**, які разважаў пра пэрспэктывы адносінаў з Расеяй, Лукашэнка наўрад ці пагодзіцца ахвяраваць незалежнасьцю Беларусі дзеля эканамічнай расейскай падтрымкі. Бо гэта пагражае ягонай асабістай бясьпецы праз страту пазыцыі кіраўніка дзяржавы. Але ў такім выпадку Расея можа пазбавіць Беларусь нафтавых датацый, а гэта пацягне за сабой эканамічны спад і зьбядненьне насельніцтва.

Аднак, незалежна ад далейшай хады падзеяў, беларусам варта дбаць пра захаваньне нацыянальнай ідэнтычнасьці. Асабліва тут, у памежных рэгіёнах, дзе ўплыў «рускага сьвету» найбольш адчувальны. Таму ўдзельнікі канфэрэнцыі выклалі тэзы, якія варта ўключыць у рэзалюцыю да накіраваць яе ўладам пасьля канчатковай дапрацоўкі. Сярод патрабаваньняў віцяблянаў — абмежаваньне прапагандысцкіх перадач расейскіх тэлеканалаў, стварэньне беларускамоўных клясаў, забарона дзейнасьці шэрагу грамадзкіх аб'яднаньняў і інтэрнэт-паблікаў прарасейскага накірунку.

Але самае істотнае, пагадзіліся ўдзельнікі, — гэта пашырэньне беларушчыны на ўласным прыкладзе: ня быць абыякавымі да праяваў чужога гвалтоўнага ўплыву, паведамляць пра кожны выпадак антыбеларускай агрэсіі ў адпаведныя органы і ў СМІ, і самім «лезьці ў скрыню», зважаючы на прапагандысцкі магчымасьці тэлевізіі.

Паводле Радыё Свабода

# ПАДАДЗЕНАЯ ЗАЯЎКА НА МІТЫНГ І ДЭМАНСТРАЦЫЮ ДА 101-Й ГАДАВІНЫ БНР

Аргкамітэт па святкаванні 101-годдзя Беларускай Народнай Рэспублікі падаў у Мінгарвыканкам заяўку на правядзенне Дня Волі-2019, паведаміў у сваім тэлеграме 1863х.

Арганізатары плянуюць прайсьці дэманстрацыяй па вуліцы Кастрычніцкай да стадыёна “Дынама” з наступнымі мітынгам і канцэртам.

Роўна 30 гадоў таму, 19 лютага 1989 года, БНФ правёў на “Дынама” мітынг пад бел-чырвона-белым сцягам і “Пагоняй”, мітынг сабраў каля 40 000 чалавек, паведамляе “Наша Ніва”. Той мітынг быў першым дазволеным савецкімі ўладамі апазыцыйным мерапрыемствам у Менску. Прынятая на мітынгу рэзалюцыя патрабавала скасаваць замацаваную ў Канстытуцыі кіроўную ролю камуністычнай партыі, а таксама вярнуць гістарычную сымболіку, зрабіць яе дзяржаўнай.

Падачу заяўкі пракаментаваў лідар партыі БНФ Рыгор Кастусёў.

“Заяўка пададзена ад юрыдычных асобаў: ад Грамадскага аб'яднання БНФ “Адраджэньне” і культурніцка-асветніцкай установы “Амарока”, — сказаў ён. — Дата мерапрыемства — нядзеля, 24 сакавіка”.

“Летась таксама не было пэўнасці, ці атрымаецца ў нас правесці канцэрт ля Опернага.

І цяпер, як і тады, ёсць жаданне, спадзеў, але і рызыка. Ёсць папярэднія дамоўленасці з “Дынама” аб канцэрце, але для іх канчатковасці патрэбны дазвол. Мы чакаем яго цягам месяца і заклікаем усе партыі, палітычныя і культурніцкія арганізацыі падтрымаць нашую ініцыятыву і зрабіць усё, каб годна адсвяткаваць угодкі абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі”, — цытуе Р. Кастусёва “Прэсбол".

**Ахвяраваньні праз сыстэму “Разлік” (АРІП) пералічыць магчыма ў любым банку, праз інтэрнэт-банкінг, мабільны банкінг, інфакіёск, у банкамаце і г.д. Зьдзейсьніць аплату можна з выкарыстаньнем наяўных ці электронных грошаў, банкаўскіх плацёжных картак.**

**ДЛЯ ПРАВЯДЗЕННЯ ПЛАЦЯЖУ ПРАЗ ЕРИП ТРЭБА:**

**Выбраць: •Пункт “Сістэма” Разлік “(АРІП) / “Система “Расчет” (ЕРИП)• общественные объединения/грамадскія аб'яднанні – • прочие общественные объединения/іншыя грамадскія аб'днанні**

**• БНФ “Адраджэньне” – код паслугі 4431691**

**Для аплаты ўвесьці прозьвішча, імя, імя па бацьку, праверыць карэктнасьць інфармацыі і зьдзейсьніць плацёж.**



# БЕЛАРУСІ ЖЫЦЬ У ВЯКАХ!

**Рэзалюцыя Віцебскай абласной канферэнцы "Беларуская дзяржаўнасць. Гісторыя і сучаснасць"(05.01.2019)**

Мы, удзельнікі Віцебскай абласной гістарычнай канферэнцыі "Беларуская дзяржаўнасць. Гісторыя і сучаснасць", сцвярджаем:

— Беларусь – гэта незалежная краіна, якая мае старажытную гісторыю дзяржаўнасці.

У пачатку 14 стагоддзя старабеларуская дзяржава аб'ядноўвала тры народы ўсходняй Еўропы пад назвай Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае.

— Самая магутная дзяржава Цэнтральной і Усходняй Европы- ВКЛ- паспяхова супрацьстаяла захопнікам з Захаду (крыжаносцам) і з Паўднёвага Усхода ( мангола-татарам). Вялікае княства было надзейным хаўруснікам і абаронцам паўночных рускіх зямель, Наўгародскіх і Пскоўскіх, ад нямецкой экспансіі.

-У 16-17 вяках ВКЛ было цэнтрам культуры, адукацыі Цэнтральной і Усходняй Еўропы, дзяржавай з самым дэмакратычным і прагрэсіўным заканадаўствам.

— Пачынаючы з 16 стагоддзя, наша дзяржава становіцца абъектом агрэссіі з боку створанай ханамі Залатой Арды Масковіі. С 1500 года войскі маскоўскіх князёў і цароў увесь час парушалі межы Вялікага Княства Літоўскага, пераўтвараючы ў пустку гарады і вёскі, забіваючы і рабуючы насельніцтва, вывозячы ў Масковію беларускіх майстроў. Апошняя агрэсія прывяла да акупацыі і знішчэння дзяржаўнасці ў 1795 годзе. Дзвесці гадоў расейскай акупацыі беларускі народ змагаўся за сваю незалежнасць. У выніку развала Рассейскай імперыі ў 1917 годзе беларусы здолелі адрадзіць сваю незалежную дзяржаву- БНР. Але бальшавікі пад прыкрыццём дэмагагічнай рыторыкі аб праве народаў на самавызначэнне аднавілі імперыю ў савецкім фармаце. Распад імперыі у 1991 годдзе даў беларускаму народу новый шанец.

— Беларусь як незалежная жыве ўжо 30 гадоў, аднак амаль усе гэтыя гады Беларусь, яе народ адчуваюць сталы эканамічны, палітычны і інфармацыйны ціск з боку Расеі, які ўсё часцей ідзе пад заклікамі і патрабаваннямі крамлёўскіх дзеячоў аб знішчэнні беларускай дзяржаўнасці і новага далучэння да Расеі. Асабліва гэтая антыбеларуская палітыка ўзмацнілася пасля агрэсіі Масквы супраць Украіны і захопу Крыма ў 2014-м гдзе.

Мы заяўляем:

— Беларусь з'яўляецца самадастатковай краінай, якая павінна і можа рухацца ў сваім развіцці самастойна і незалежна, выконваючы волю беларускага народа, выяўленую на свабодных і адкрытых выбарах.

— Беларусь з'яўляецца часткай міжнароднай супольнасці і здольна самастойна вызначаць стасункі з іншымі краінамі на падставе роўнасці, справядлівасці і даверу.

— На трэццім дзесятку гадоў пасля атрымання незалежнасці Беларусь балюча адчувае на сабе ўсе наступствы каланіяльнай палітыкі ўсходняга суседа і адсутнасць нацыядзяржаўнай палітыкі дзеючага кіраўніцтва краіны.

— Беларусы, маючы гістарычныя нацыянальныя сымбалі дзяржаўнасці-бел-чырвона-белы сцяг і герб Пагоню, не маюць права карыстацца імі ў паўсядзённым ужытку без рэпрэсіўных наступстваў.

— Існуючыя ворганы абласной і раённай улады не бароняць нацыянальныя каштоўнасці, не фармуюць мясцовую палітыку незалежнасці і суверэнітэту Беларусі. Часам спрыяюць прапагандзе расейскай экспансіі праз падтрымку прарасейскіх структур, а таксама асобных дзеячоў, якія зневажаюць беларускую дзяржаўнасць у сваёй дзейнасці. Маюцца шматлікія прыклады антыдзяржаўнай дзейнасці на Віцебшчыне і ў краіне прарасейскіх дзеячоў, якія не атрымліваюць адэкватнай ацэнкі ворганаў улады, наадварот, маюць іх падтрымку.

- Забараняючы выступы беларускіх музычных гуртоў, адмаўляючы ім у пляцоўках, мясцовая ўлада дае абласныя і раённыя сцэны адыёзным прарасейскім спявакам кшталту Віктара Каліны;
- па вуліцах Віцебска вольна раз'язджаюць машыны пад чужынскім трыкалорам ці "георгіеўскай" стужкай, якая з 2014-га года стала сымбалем расейскай агрэсіі супраць сувярэнных краін-суседзяў;
- агітацыйная калона НОДа бесперашкодна прадэфіліравала ў сакавіку 2018-га года па праспекце Незалежнасці ў Менску;
- зарэгістраваны і бесперашкодна працуе ў Віцебску "Русский дом", які вядзе антыдзяржаўную, антыбеларускую палітыку. У той жа час абласныя ўлады шмат гадоў безпадстаўна адмаўляюць у рэгістрацыі беларускіх НДА ;
- пад патранажам праваслаўнай царквы па ўсёй вобласці актыўна дзейнічаюць "Казакі Паазер'я", маючы сваіх куратараў у Маскве і на Кубані, збіраючы штогод нашых падлеткаў на ваенныя зборы ў Падмаскоўе, святары праваслаўнай царквы блаславляюць і ўдзельнічаюць у рознага кшталту сходах і канферэнцыях, прапагандуючы ідэі "русского мира" ды "единого народа";
- ворганамі адукацыі Віцебскай вобласці праводзіцца антыбеларуская палітыка абмежавання ўжывання беларускай мовы ў сістэме адукацыі і адкрыцця беларускамоўных класаў і школ, нашых выпускнікоў бесперашкодна, а то і прыярытэтна заманьваюць на навучанне расейскія вну;
- беларускай выбарчае заканадаўства дазваляе грамадзянам Расеі выбірацца ў мясцовыя Саветы дэпутатаў і нават стаць іх старшынямі.

Мы кажам "НЕ" агрэсіунай інфармацыйнай і эканамічнай палітыкі Расеі ў дачыненні да сувярэннай Беларусі.

Мы патрабуем ад прадстаўнікоў улады актыўных дзеянняў, каб супрацьстаяць ціхай анэксі, не дазволіць здзейсніцца пагрозам аб захопе Беларусі Расеяй па прыкладу ўкраінскага Крыма.

Мы патрабуем забараніць дзейнасць "Русского дома", "Казакоў Паазер'я " ды іншых праваднікоў агрэсіўнай палітыкі Расеі на тэрыторыі Віцебскай вобласці як памежнай з дзяржавай-агрэсарам.

Мы патрабуем спыніць сумесныя ваенныя вучэнні з расейскімі узброенымі сіламі на тэрыторыі краіны, выхада Беларусі з ваеннага блока АДКБ.

Мы патрабуем усталявання адказных палітычных і эканамічных зносін з дзяржавай-суседкай, ад якой сыходзіць пагроза анэксіі.

Мы выказваем недавер такім палітычным структурам Віцебшчыны, як "Справядлівы свет" (СС), "Гавары праўду", партыі "Труда і справядлівасці", якія прынялі ўдзел ва ўстаноўчым сходзе прарасейскай ініцыятывы "Союз" у Віцебску ў ліпені 2018-га года.

Мы выказваем недавер абласному аддзелу адукацыі ў яго ганебнай палітыкі знішчэння беларускамоўных школ і класаў і настойваем на

# БЕЛАРУСІ ЖЫЦЬ У ВЯКАХ!

адкрыцці беларускамоўных адукацыйных устаноў.

Мы патрабуем вядзення афіцыйнай дакументацыі на беларускай мове.

Мы патрабуем адмены назваў вуліц, плошчаў, устаноў у гонар катаў беларускага народа ( Ў. Ленін, А. Сувораў, Урыцкі, д. і.), назваў Камуністычная, Савецкая і тп) і замены іх на назвы ў гонар прадстаўнікоў беларускай культуры, гісторыі, аднаўлення старажытных назваў, што паспрыяла б выхаванню ў жыхароў Беларусі пачуццяў гонару, годнасці, патрыятызму.

Мы заклікаем дзяржаўныя і мясцовыя ўлады праводзіць палітыку па ўмацаванні дзяржаўнага суверэнітэта, забяспечыць сапраўднае рэальнае раўнапраўе беларускай мовы.

Мы лічым неабходным наданне гістарычным беларускім сымбалям6 бел-чырвона-беламу сцягу і гербу Пагоня- статуса нацыянальна-гістарычнай каштоўнасці.

Мы патрабуем абмежаваць дзейнасць тэлевізійных каналаў РФ на тэрыторыі Беларусі, паступова павялічваць вяшчанне на беларускай мове.

Перадусім - Беларусь!

# ДАЛУЧАЙСЯ ДА НАЗІРАНЬНЯ "ПРАВА ВЫБАРУ-2019"

**Восем дэмакратычных аб'яднаньняў заявілі пра старт кампаніі назіраньня за выбарамі «Права выбару — 2019». Гэта Партыя БНФ, АГП, Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (БСДП), БХД, «За свабоду», «Зялёныя», прафсаюз РЭП, Партыя свабоды і прагрэсу.**

**"Права выбару-2019" — гэта:8 арганізацыяў, 18 кандыдатаў, 18 акругаў татальнага назіраньня, 1500 назіральнікаў, 7 зьменаў у выбарчы кодэкс.**

Пра што размова: Кампанія партыйнага назірання за выбарамі "Права выбару", якая паспяхова была праведзеная цягам некалькіх мінулых выбарчых цыкляў, будзе працягнутая. Восем дэмакратычных партыяў і арганізацыяў — АГП, БНФ, БСДП, БХД, "Зялёныя", ПСП, Рух "За свабоду" і прафсаюз РЭП падпісалі новае пагадненне аб сумесным правядзенні мабілізацыйнай кампаніі ды актыўнага назірання на наступных выбарах. 18 патэнцыйных парляманцкіх кандыдатаў ад арганізацыяў-удзельніц "Права выбару" пачалі ў лютым лякальныя сацыяльна-эканамічныя ды мабілізацыйныя кампаніі ў сваіх раёнах. "Права выбару" таксама падрыхтавала прапановы зменаў выбарчага заканадаўства ды практыкі яго прымянення ў Беларусі і працуе дзеля іх рэалізацыі.

Асноўныя прапановы - гарантыя правоў партыяў і кандыдатаў пры фармаванні выбарчых камісіяў, абмежаванне датэрміновага галасавання і цалкам празрысты падлік бюлетэняў.

**Пра гэта заявілі ў Менску падчас прэсавай канфэрэнцыі "Права выбару" адзін з лідэраў АГП Леў Марголін, старшыня БНФ Рыгор Кастусёў, лідэр БСДП Ігар Барысаў, сустаршыня БХД Вольга Кавалькова і намеснік кіраўніка Руху "За свабоду" Віктар Янчурэвіч.**

Хто што сказаў:

**Леў Марголін, АГП:** "Вяртанне дэмакратыі ў Беларусі павінна пачацца з правядзення свабодных выбараў. Гэта першы і неабходны крок. Таму мы ў межах кампаніі "Права выбару" будзем праводзіць актыўную працу, каб дамагчыся зменаў у выбарчае заканадаўства. Мы працуем дзеля гэтага з беларускім грамадзтвам, экспэртамі, СМІ, з дзяржаўнымі органамі. Мы настойваем, што выбарчы кодэкс і практыка яго прымянення павінны быць зменены. Неабходныя змены дэталёва прапісаныя, падрыхтаваныя. 7 канкрэтных рэчаў, якія дазволяць абараніць правы кандыдатаў, назіральнікаў, усіх выбаршчыкаў".

**Рыгор Кастусёў, БНФ:** "Мы заяўляем, што дэмакратычныя сілы Беларусі на самой справе аб'ядналіся ў кампаніі "Права выбару" дзеля сумеснага змагання за падставовыя дэмакратычныя прынцыпы, за права беларусаў абіраць, кантраляваць і змяняць сваю ўладу. У нас розныя палітычныя праграмы і стратэгія дзеянняў, але ў "Права выбару" мы ўсе працуем разам, ад левых да правых, ад прафсаюзаў да "Зялёных". Ня верце, калі кажуць, што дэмакратычныя сілы Беларусі ня могуць працаваць разам. Пагрозы для незалежнасці застаюцца высокімі на бліжэйшыя гады. І менавіта свабодныя выбары, якія прызнае і грамадзтва, і вольны свет — важны чыннік нацыянальнай кансалідацыі ды ўмацавання сувэрэнітэту краіны"

**Ігар Барысаў, БСДП:** "Мы будзем назіраць на 18 парляманцкіх акругах. Палова з іх — у Менску, іншыя — ва ўсіх абласных гарадох Беларусі. 18 патэнцыйных кандыдатаў ў Палату прадстаўнікоў ад усіх арганізацыяў-удзельц "Права выбару" валодаюць у сваіх мясцовасцях вялікім арганізацыйным патэнцыялам ды аўтарытэтам, таму мы ўпэўненыя, што яны будуць мець вялікую падтрымку людзей. Ад лютага яны пачынаюць новы этам сваёй працы па вырашэнні мясцовых праблемаў, а таксама па мабілізацыі жыхароў раёнаў у шэрагі будучых назіральнікаў за выбарамі. Гэта важная задача кампаніі "Права выбару" — арганізаваць назіранне ня толькі сіламі партыйных актывістаў, але й прыцягнуць новых, далёкіх ад палітыкі людзей, што жывуць тэрыторыі акругаў"

**Вольга Кавалькова, БХД:** "Сярод патэнцыйных кандыдатаў, мясцовыя кампаніі якіх кампанія "Права выбару" падтрымлівае і на акругах якіх пляннуе назіраць, шмат нацыянальных лідэраў — гэта і Юры Губарэвіч, і Рыгор Кастусёў, і Ігар Барысаў. Я таксама працую ў раёне. Ёсць вельмі моцныя рэгіянальныя лідары. Усе яны актыўна працавалі, працуюць і будуць працаваць у сваіх мясцовасьцях дзеля вырашэння сацыяльна-эканамічных праблемаў. Мы ведаем, што людзі чакаюць ад нас перадусім лідэрста і дапамогі ў тым, каб іх жыццё станавілася лепшым. І мы робім гэтыя канкрэчныя справы па ўсёй краіне. І гэта адзіны шлях, каб пераканаць людзей, што свабодныя выбары патрэбныя перадусім не кандыдатам ці партыям. Свабодныя выбары патрэбныя звычайным, простым людзям, каб іх жыццё станавілася лепшым".

**Віктар Янчурэвіч, РЗС:** "Беларусы — эўрапейская нацыя. Але Беларусь застаецца адзінай краінай Эўропы, дзе грамадзяне ня маюць магчымасці абіраць на пасады, або здымаць з пасадаў сваё кіраўніцтва. Нашы суайчыннікі заслугоўваюць свабодных выбараў. Каб вярнуцца ў сямью эўрапейскіх народаў, што цешацца ўсімі плюсамі і выгодамі дэмакратычнага ладу, мы павінны дамагчыся свабодных выбараў, якія мусяць адпавядаць усім міжнародным стандартам. Кампанія "Права выбару" шчыльнага працуе з міжнароднымі экспэртамі ды арганізацыямі ў галіне арганізацыі ды правядзення выбараў, каб пераносіць міжнародны досвед правядзеньня свабодных выбараў у Беларусь, і каб інфармаваць міжнародную супольнасьць аб сапраўдным стане рэчаў з выбарамі ў нашай краіне"

**pravavybaru@gmail.com**